# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №90

ЛЮТЫ-КРАСАВІК 2006

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## 92%

Дзевяноста два ад соткі- столькі дуброўцаў, згодна з задаваленым сьведчаннем старшыніхі выбарчай камісіі, прагаласавала за не першай сьвяжыны прэзідэнта. Так яно ці не- праверыць немагчыма, бо аніякага незалежнага назірання за выбарамі не было. Яно то праўда, дуброўскія кухвайкі пацягнуліся на галасаваль-ны пункт ажно за пяць дзён. Ад суму, ад нечага рабіць, па іх уласнаму прызнанню. Улада добра папацела, бегаючы высалапіўшы язык за кожным апазіцыянерам. Тэлевізар ажно трашчаў, палохаючы інфантыльнага выбарца шырокім выбарам старых страхаў- Амэрыка, НАТА, Прыбалтыка- (І чаго яе баяцца? Нядаўна ж былі разам у брацкай сям"і савецкіх народаў, удзельнічалі ў сацыялістычным спаборніцтве зь Літвою... І раптам- на табе, вораг!)

А ён, каторы на Трэйцім усебеларускім зборышчы заявіў «Я наелся ужэ этай власці», аказваецца, нажэрся недастаткова. Здавалася б, раз нажэрся дык ідзі, пажыццёвы сенатар, паляжы папердуючы. Дык не, прыперліся з Расеі наёмныя прастытуткі-артыс-ты, з скуры вулузуваліся, галёкаючы«За бацьку». Хоць ахвіцыйны лозунг быў «За Беларусь!» Дык за Беларусь ці за бацьку?

А між тым цьвярозыя лю-дзі цьвяроза ацэньвалі вынікі царавання іхняга «бацькі» :кантракты, бяспраўе і страх страціць працу, сваволле началь-ства, алкагалізацыя і ЛТП, маленечкія заробкі і няс-пынны падрост цэнаў, адсутнасьць жылля і заняпад узроўню медычнага абслугоўвання, камерцыялізацыя навучання і процьма іншага сацыяльнага небуту, які нічым не кампенсуецца.Ці кампенсуецца гвалтам і прымусам.

***МАРНЫ ЗАКЛІК***.

Дарма разумны,спакойны і сімпатычны Мілінкевіч заклікаў Лукашэнку на тэледэбаты. Якія, нахер, дэбаты! »Нажэршыся улады», той схаваўся за сьпіны чорнакашульнікаў з АМАПу, а дэбаты правёў 23 і 25 сакавіка дубінкамі.

Асабліва трэба адзначыць гэтак званае «беларускае» тэлебачанне. Столькі бруду і гаўна на суседзяў, на праціўнікаў Лукашэнкі, столькі хлусьні і страху яно, бадай, яшчэ не абрынала на беларусаў. Ад гэтага дэмана быў адзін паратунак: не пазіраць яго. Але бальшыня простых кухваек наіўна верыла сатане ва ўласнай хаце і перадавала свой ірацыянальны страх навакольным. Ну, наўпрост па хвалевай тэорыі Хрысьціяна Хуйгенса.

***КУХВЕЙКІ СУПАКОІЛІСЯ***.

Сатанінскі шал выбараў скончаны.Лукашэнка начырыў сабе 82% галасоў.Паспакайнелыя кухвайкі па гарадох і вёсках усселіся задніцамі на зэдлікі перад тэлевізарамі душыцца пойлам серыялаў і зьвягнёю сьпяцоў па псіхалагічнай вайне: вайны і рэвалюцыі пакуль што не будзе Апазіцыя, якую выбары засталі, як Расею зіма- заўсёды зьнянацку-патупаўшы каля народу, бярэ чарговы неаплочаны чатырохгадовы адпачынак?

Людзі старэйшага веку жылі пры страшнай камуністычна-энкавэ-дзісцкай дыктатуры.

Нам і нашым дзецям, відаць, даводзіцца жыць пры трывіяльнай персаналісцкай -а таму таксама бязьлітаснай і лютай дыктатуры, якая была на Гаіці, у Дамініканскай Рэспубліцы, у Венесуэле, дзе панавалі забойцы тантон-макуты. Кухвайкі горада і вёскі за гэта прагаласавалі. Яны будуць жаліцца на цяжкасьці. Не верце ім. Гэта енкі мазахістаў, якія любяць засранае існаванне пад маркаю «мір- гэта вайна», а «свабода-гэта рабства». Нічога новага пад сонцам...

## СКАНДАЛЬЧЫК У ДУБРОВЕ-АГРА.

Карыстаючыся з пры-быткаў брацкай славянскай цаны на газ мо па 46 даляраў за 1000 кубаметраў- мы ж плацім па 470 даляраў- уладальнік «Дубровы-агра» камбінат «Гомельэнерга» да дня Савецкай Арміі і Ваенна-марскога флоту, «23й феўраля»- распарадзіўся выдаць усім работнікам па 100.000 рублёў (Паколькі на зімовы стойлавы перыяд раб. сіла была пасаджана на мінімальны кансервацыйны заробак, то гэтыя 46 праклятыя даляры былі б дарэчы.)

Але ў Дуброве-Агры таемна вырашылі, што хопіць раб. сіле і меней. Далі каму-колькі, а некаторым страднікам, як Сівалапу Міхайлу, анічога. Мо яно так і засталося б, але прыехала ў Дуброву рэвізія ад ўласьніка і знайшла невыкананне ягонае волі.

Болей за тое, рэвізія высьветліла, што багата каму з работнікаў ладнага недаплачувалі за працу, як Пінчук Ірыне, ажно каля шасьцісот тысяч рублёў.

Рэвізоры прапаноўвалі работнікам напісаць скаргі на кіраўніцтва, але боявуя на язык бабу тутака падцялі хвост, наўпрост сказаўшы, што баяцца.

Наўрад ці ў Дуброве-Агры ведаюць крылатае выслоўе часоў Рымскае імпэрыі **Odirent dum metuant** -хай ненавідзяць, абы баяліся.Ды робяць як там і тады.

Ці ж былі пакараныя вінаватыя за абкраданне працоўных? Божа барані!
Хіба ж псівая ўлада калі-небудзь брала працоўнага ў разьлік? Мо як сыравіну для сацыялізму.Ну, наўпрост па Арыстоцелю- «прылады працы, якія гавораць».

Даводзіцца з жалем сьведчыць: камунафашызм у Беларусі сядзіць крэпенька.

---

## АШТРАПАВАЛІ.

Інспекцыя, што прыязджала ў школьную сталоўку, знайшла непарадкі і аштрапавала школьную кухарку, і гэта было сустрэта з задавальненнем шэрагам працоўных вёскі і школы.

По Дуброве ізноў папаўзла пагаласка, што пасьля таго, як Рая-Шасьцівочка пайшла з лаўкі, практыка фальшывага набыцця прадуктаў у лаўцы кухаркаю аднавілася.

У каго ёсьць дзеці-школьнікі, той можа пацікавіцца, якім фуражом кормяць дзяцей.

## БЯДА

/да ўвагі таварыша Мухі/

Занядужаў у жыхаркі Дубровы П. зуб.Паехала яна лячыць яго ў нашае павятовае мястэчка Парычы. Тамака лекарка вырашыла правесьці экстырпацыю гэнага зуба, а па-нашаму кажучы, вырваць яго. І памылкова вырвала здаровы зуб.Давялося беднай жанчыне назаўтра ізноў ехаць у нашае павятовае мястэчка Парычы і гэтым разам выдаліць сапраўды негадзяшчы зуб.

Бедная лекарка прызналася беднай жанчыне, што на тым самым тыдні ў яе гэта ўжэ трэйці такі выпадак.

Каб была ў нас страхавая медыцына, дыялог між пацярпелым пацыентам і няшчасным лекарам быў бы іньшы. А так мірна разышліся. Што ж, бясплатныя пацыенты для бясплатнага лекавання. Як у Бухенвальдзе.

То гэную лекарку трэ тэрмінова паслаць на курсы падвышкі квалі-хвікацыі.

**ЭКСПЛУАТАЦЫЯ ЖАНОК**. Ашчаджаючы рэсурсы для рынкава-сацыялістычнае дзяржавы было загадана зачыніць усе бугалтэрыі ўчастковых бальніц. Іхнюю працу перакінулі ў цэнтральную бугал-тэрыю. Адпаведна павялічыўся аб”ём працы ў бугалтарак. Жанчыны разьлічвалі, што ім трохі кампенсуюць большую працу, ды дзе там! Божа літасьцівы! Пан Антось Муха і чуць не хоча гэтага бізікання.

Самі ж жанчыны баяцца патрабаваць справядлівасьці: на кажнай вісіць кантракт. Ты запатрабуеш справядлі-вай даплаты, а табе скажуць: «не наравіцца-
ідзі прэч».

Паштаркі баяцца, буга-лтаркі баяцца, а праві-льнае спражэнне дзеяслова «баяцца» такое.

**я не баюся**
**ты не баішся**
**яна не баіцца**
**мы перамагаем**

/мараль на суседняй старонцы./

## БЯДА

/працяг з суседняй старонкі/

Гэтыя кантракты сталіся сапраўднай бядою для працоўных. Гэта пастаянны генератар стрэсу.Нездарма разумны Мілінкевіч казаў, што калі стане прэзідэнтам, то найпершы ягоны ўказ будзе пра скасаванне кантрактаў для простых працоўных. Ўжо за ета трэбла галасаваць за яго. Але кухвайкі здужалі.

На Трэйцім усебеларускім зьлёце падхалімаў -(кажын падхалім атрымаў тэлевізар, пляшку гарэлкі і бляшанкі ікры, то бок тэлевізар, скварку і чарку)- беларускі дыктатар нахабна і зьдзекліва заявіў, што кантрактавую сістэму не скасуе. Нашто яе касаваць? Гэта яму як выкінуць паплiску.

Дыктатар упэўнены, што сабе ён кантракт падпісаў пацыццёва. Прынамсі, як ён мяркуе, на пяць год.

Вяртаючыся да бугалтарак з лякарні зазначым, што можна было б даплачуваць ім за кошт эканоміі сродкаў ліквідаваных бугалтэрый.

Унь у некаторых ФАПах незразумела для чаго па дзьве машыны, на ўтрыманне якіх ідзе болей сродкаў, чым на гароўную бугалтарку.

Сваю нікчэмнасьць дэманструе і гэтак званы «прафсаюз». Няўжо ён не бачыць несправядлівасьці?

Начальству трэ пакумекаць, каб паправіць крыўду. І слова пана Антося Мухі тутака не апошняе, можна меркаваць.

А ўвогуле, працоўным трэба вучыцца гуртам абараняць свае інтарэсы. Уся гісторыя сьведчыць, што тое, што даецца, тое лёгка адбіраецца. А што адваявана- тое не вырвуць.

Падтрымлівайце тайна апазіцыю, шукайце аднадумцаў. Не векаваць жа так!

## ЗБАВЕННЕ? НАРОДНЫ ГНЕЎ!

Усё болей пашыраецца ў Дуброве гандаль тэхнічным сьпірытусам, які папіваюць шызамордыя п”яніцы і наіўныя сасмаглыя, тыя, каму Лукашэнка, ўсё яшчэ першы, неяк быў забараніў галасаваць за сябе.Піццё тэхнічнага сьпірытусу- гэта гульня ў беларускую рулетку. І, трэба зазначыць, некаторыя добрыя беларусы папаліся на гэтую рулетку і памерлі без споведзі і сьвятых дароў.

У Дуброве ведаюць імёны гандлярак атрутным зеллем.

Ладнага жанок абураецца імі ў грамадзкіх месцах.

Цяперака задача- навесьці на іх міліцыю.<u>Нашураднік Міхайла Міхайлаў, адгукаецца на тэл.</u> Званіце, расказвайце праўду. Тым самым вы ўратуеце людзкія жыцці.

**Народным гневам ачысьцім нашу Дуброву ад паганых напояў!**

---

## НОВЫ-СТАРЫ ЧЫНША-АБРОК.

Прамаскоўская акупацыйная ўлада зусім расьпераззалася.8 числа красавіка месяца павятовы намесьнік Пірштук загадаў правесьці суботнік. Мала таго, што працоўных выгналі скрэбці прыкарэлае прымерзлае сьмецце, дык за гэтае скрабенне з людзей шчэ вылічылі грошы. Нават дзяцей выгналі.(Трэніруюць рабоў?)

Грошы трэба аддаць у райвыканкам не невядома які рахунак на невядома якія мэты. Гэта ўжо, наогул, абуральна! Чаму чыноўнікі так хаваюць суму і мэты прызначэння грошай ад працоўных?

Чаму народ павінен адрабіць ды шчэ й заплаціць за гэта?!

А тут ізноў новы суботнік абвясьціў менскі ўрад.
Яму патрэбны грошы.Раней суботнікі праводзілі па «просьбе» працоўных.
Цяпер гэтую маскіроўку скінулі, патрабуюць нахабна: давай грошы, хоць з калена ламі.
Пакуль што камуністычная паншчына абмяжоўваецца двума днямі.
А што далей будзе?
Далоў халяўныя суботнікі і ненавісныя кантракты!

У Дуброві адна баба так гнала свайго сына, што не хацеў ісьці на суботнік, а зрання зьбегаў да суседа на чарку:»Німа на вас пакойніка Сталіна, ёпвашумаць!»
І сьмех і грэх!

## НЕБЯСЬПЕЧНЫЯ РАКЕТЫ.

Нек спаткаліся ля лаўкі два Міхайлы Друзікі. І вось адзін Міхал паінфармаваў другога, маўляў, расейскі міністр абароны абяцаў прывезьці ў Беларусь ракеты СС 300. Ягоны візаві ўважліва слухаў і згодна і ўхвальна пагаджаўся, ківаў галавою.

Мужыкам, атручаным прапагандаю, ў галаву не прыходзіла, наколькі гэта небясьпечнае, страшнае ігрышча.Нашто нам, беларусам, расейскія ракеты? З кім ваяваць?
Якімі сродкамі? Для чаго?

Хіба мо тыя ракеты Расея хоча прадаць рукамі менскіх халуёў?

**НЕ РАСЕЙСКІМ РАКЕТАМ І БАЗАМ У БЕЛАРУСІ!!**

/гл. таксама с.4/

## Паглядзі, сава, якая сама!.

У свой час, гадоў 12 таму, маскоўскія кагэбісты праз свой мясцовы філіял тутака запусьцілі плётку, быццам беларускія апазіцыянеры маюць лозунг «Беларусь-для беларусаў» і хочуць выгнаць усіх небеларусаў адсюль. Гэтае ілжывае пойла актыўна распаўсюджвала як электронная прапаганда, гэтак і платныя агенты і агенткі ў кухвайках у людных месцах. Такога лозунгу беларускія апазіцыянеры ніколі не мелі, але і сёння Лукашэнка палохае маскалёў з Расеі, што, маўляў, да яго тутэйшыя кацапы сядзелі на чумайданах.

На чумайданах у нас ніхто не сядзіць. Энкавэдзісцкі лозунг, які яны хацелі прышчапіць, у Беларусіне прыняўся.

Затое ў Расеі, ахопленай ракавымі пухлінамі вайсковых канфліктаў, кагэбісцкі лозунг знайшоў спрыяльную глебу.Прыкладна раз на два тыдні з Расеі прыходзяць весьці, што тамака тамтэйшыя «патрыёты» забілі «іншародца»- ці то негра, ці то таджыка, ці віетнамца, ці якога «каўказца». Не шкадуюць нават дзяцей. Абы морда была «неславянская». Перыядычныя пагромы нярускіх - у іх рэч звычайная. Усё гэта пад лозунгам «Расея- для рускіх». Забойства- рэч гнюсная. Але звычайна суд не «можа» даказаць віну абвінавачаных, калі іх ловяць.

Лагічна разважаючы, раз «Расея для рускіх», то «Якуція- для якутаў» і бывайце, каланіяльныя дыяменты,»Эвенкія- для эвенкаў» і бывай, золата,»Ненцыя- для ненцаў», і бывай каланіяльны газ, «Ханты-мансія- для хантаў і мансі» і бывай, нафтавы гальфстрым, «Каўказ -для асоб каўказкай нацыянальнасьці» і бывай, Чорнае мора...

Проста клас! Супер-гіпер-ультра, што расейскія нацыкі спрыяюць аслабленню і краху каланіяльнае Залатаардынскае імпэрыі.

Правільна разумеючы лозунг «Наш дом-Расея» каўказцы бароняць свой дом-Каўказ- ад каланізатараў. Група ваяроў мужна адбівалася ад расейцаў 9-10 лютага ў Стаўрапалі, а ў Дагестане напады на расейцаў- справа гонару кожнага. Як аукаецца ў Маскве, гэтак ад"зываецца ў Дагестане.

Як кажуць, круці, не круці, а што вінен, заплаці.

## ТРЭНІРОЎКА АКУПАНТАЎ?

Улетку, як абвешчана, пройдуць вайсковыя ігрышчы маскалёў у Беларусі. Да нас прыляцяць краснапузыя сокалы (з атамнымі бомбамі пад брухам)мо ў Баранавічы і прыпрэцца іхняя 20я армія

каб патрэніравацца, як нас лепей зноў акупаваць.

Беларускі дыктатар хочаць пабачыць сябе важнай персонай, настрапаліць супраць сябе нашых заходніх суседзяў, абвайстрыць становішча, і стаць шчэ больш важным.

Нам жа простым людзям, такія ігрышчы нічога добрага не дадуць. Лукашэнка і ягоная палітыка даўно сапрэлі і збуцьвелі. Хоча ён быць шчытом Расеі- хай прэцца з сынамі туды і там гарцуе.

**Прэч расейскія вайсковыя базы з Беларусі! Ніякіх «саюзаў» з расейскімі каланізатарамі!**

## АДУКАВАНЫЯ БУСЛЫ.

Два хлопцы з нашага сяла -
Бусел Аляксандр Васілёў і
Бусел Клім Мікалаеў атрымалі дыпломы вышэйшай інжынернай адукацыі.Апошні мае нават дыплом з адзнакай.

Віншуем хлопцаў з важным дасягненнем.

Улетку дыпломаў ВНУ паболее.

Радыё «СВАБОДА» зараз мае такі расклад.
06-08г -7155 і 9635 кгц
18-20г- 9725 і 15215 кгц
20-24г 7195 і 15215 кгц.

Пайшла ад нас добрая беларуска
**МОРДУС Ніна Максімава.**
Гаравала ў калгасі заатэхнікам
Хай ёй зямля будзе пухам.

Пайшоў ад нас добры беларус
**ДРУЗІК Васіль Іванаў**
Гараваў трахтарыстам у калгасі.
Спачуваем дзецям і жонцы.
Хай яму зямля будзе пухам.

Пайшла ад нас добрая беларуска
**ДАЙНЕКА Варвара Апанасава**
Хай ёй зямля будзе пухам.

Пайшла ад нас раптоўна
добрая беларуска,палкая
прыхільніца Прэзідэнта
**СІВАЛАП Вольга Сьцяпанава**
Сорак гады адгаравала на чужых
калгасных каровах. Мела пачот.
Багата каму яна памагала.
Па ёй смуткуюць дзеці,унукі, радня.
Хай ёй зямля будзе пухам.

Друкарня імя І. Масьціцкага. 100 ас.
Кангламерат «Далоў Хама!» Inc.